## Слова рэдактара

# *Няхай часцей гучыць смех...*

*Паважаныя вожыкаўцы!*

*Вы атрымаеце гэты нумар, дванаццаты па ліку, відаць, на самы Новы год, калі гадзіннік будзе адлічваць запаветныя дванаццаць удараў. Можаце яго нават лічыць падарункам ад Дзеда Мароза. Што ж падорыць вам снежаньскі нумар часопіса? Маленькія «прэзенты» ў выглядзе настольнага календара (для дарослых) і закладак з коміксамі ды каляндарыкамі (для дзяцей), а таксама — весялосць, смех ды добры настрой... Рэдакцыя часопіса сардэчна віншуе вас з Новым годам і Калядамі і жадае, каб было больш нагод для радасці, каб часцей гучаў у вашых дамах і кватэрах смех, каб мы былі разам!*

*Удзячны вам за тое, што засталіся з «Вожыкам»: калі чытаеце гэтыя радкі, значыць, па-ранейшаму падпісаліся на нашае калючае і вясёлае выданне (а магчыма, параілі выпісаць ці падпісалі на яго сваіх родных, блізкіх, сяброў). Скажу шчыра: лёс часопіса ў вашых руках. Будуць чытачы, будуць аўтары, будуць падпісчыкі — будзе і «Вожык».*

*Дзякуй і за пісьмы з самых розных куткоў Беларусі, і за тэлефонныя званкі. Ведайце: мы заўсёды рады пачуць вашыя думкі, меркаванні, ідэі, прапановы, ацэнкі, парады, а таксама — заўвагі. Абавязкова да іх прыслухаемся і парупімся зрабіць так, каб «Вожык» — з вашаю дапамогаю — стаў яшчэ больш вясёлым, цікавым, дасціпным.*

*Віншуем яшчэ раз усіх з навагоднімі святамі і жадаем, каб цуды здараліся ў вашым жыцці не толькі на Новы год і каб лёс як мага часцей дарыў вам прыемныя і нечаканыя падарункі!*

***Юлія ЗАРЭЦКАЯ.***



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, тэма Валянціны ГАРБАЧУК.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

# Пад Новы год

Пад Новы год,
Пад Новы год
Ля рынку
Тоўпіцца народ.
Дзядуля елкі
Прадае,
Дарма ён жарты
Раздае...
– Здароў, сваяк!
Калі сваяк,
Аддам за так,
А не сваяк –
Плаці «траяк»!
У хату
Елка завітае,
Усіх прысутных
Прывітае.
Бо з ёй Снягурка,
Дзед Мароз –
Развесяляць
Ледзь не да слёз,
Ды будзе многа
Падарункаў,
Паўторбы цацак,
Пуд ласункаў...
Дзядуля
Елкі прадае
І пажаданні
Раздае.
Пад Новы год.





Малюнак Алега ГУЦОЛА.



## Хвароба — не перашкода

Сцюдзёны зімовы дзень. На рэчцы размаўляюць рыбакі:
– Ты што, Рыгор, водпуск узяў?
– Не, а чаму пытаешся?
– Ты заўсёды прыходзіў лавіць рыбу пасля работы, а цяпер вось з раніцы тут.
– А я на бальнічным!..

## Магу на любым!

У загадчыка сельскага клуба пытаюць:
– На якіх інструментах вы іграеце?
– На гармоніку, баяне... – адказвае той.
– А яшчэ на якім інструменце маглі б сыграць?
– Шчыра кажучы, калі чарку вазьму, то на любым!

## Свой крытэрый ацэнкі

Сярод пісьменнікаў.
– Чытаў маё новае апавяданне ў часопісе?
– Так, прагледзеў...
– Ну, і як ацэньваеш?
– Тэкст вялікі, ганарар будзе нядрэнны.

## «Інтэлігентнае» лякарства

– Нешта мой сабачка есці не ўзяў, – скардзіцца жанчына.
– Паспрабуйце даць яму лыжку гарэлкі, можа, апетыт з'явіцца ды і мікробаў знішчыце, – раіць сусед.
– Што вы такое гаворыце! У нас інтэлігентная сям'я...
– Ну, тады дайце яму каньяку!

## Яшчэ патрэбны

– Я чуў, на цябе сёння начальнік накрычаў...
– Гэта нядрэнна: значыць, я яшчэ запатрабаваны!

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*



*Новы год патрэбны дзецям для казкі, няўдачнікам — у якасці кропкі адліку новай надзеі і астатнім — для весялосці.*

Ішхан Геваргян
(расійскі бізнесмен)



— А гэта вам на адыходную!..

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэма Валянціны ГАРБАЧУК.




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэма Канстанціна КАРНЕЛЮКА.




## Грошы з водарам кавы

***Мінскі раён.*** Цяжка ўявіць жыццё сучаснага чалавека без кубачка гарачай гарбаты ці кавы, якія даўно сталі прадуктамі «першай неабходнасці» і заўсёды павінны быць пад рукой.

Таму некаторыя камерсанты спрабуюць зарабіць на іх «лёгкія» грошы. У гэтым чарговы раз пераканаліся правяраючыя, наведаўшы рынкі горада Мінска і Мінскага раёна: на дзевяці гандлёвых аб'ектах былі выяўлены тавары без неабходных дакументаў.

На нелегальныя напоі агульным коштам больш за 120 мільёнаў рублёў накладзены арышт. Вядзецца следства. «Лёгкія» грошы з водарам кавы, верагодна, пойдуць на штрафы.

## Свой чужы дом

***Пінск.*** Кожны мужчына павінен у сваім жыцці пабудаваць дом, выгадаваць сына і пасадзіць дрэва — так гучыць вядомае выслоўе.

Генеральны дырэктар ААТ «Будтрэст № 2» вырашыў пабудаваць дом. Але навошта напружвацца самому, калі ёсць столькі падначаленых? Вось і ўзводзілі работнікі будтрэста дырэктарскі дом (і ў дадатак гаспадарчую пабудову) у прыгарадзе Пінска, хоць, згодна з дакументамі, знаходзіліся ў гэты час на розных аб'ектах Брэстчыны.

Такім чынам установе быў нанесены ўрон больш чым на 60 мільёнаў рублёў. Зараз вядзецца следства, а гендырэктар, відаць, асэнсоўвае іншае выслоўе: «Чужое ўзяць — сваё згубіць»...

## Кантрабанда на нагах

***Дубровенскі раён.*** Наступаюць сапраўдныя халады. Зразумела, што ўсе людзі спяшаюцца як мага хутчэй і цяплей апрануцца ды абуцца. І пажадана, каб гэта было штосьці новенькае.

З такімі «навінкамі» і была затрымана каля пункта спагнання дарожных збораў «Рэдзькі» 42-гадовая мінчанка. На мікрааўтобусе «Мэрсэдэс-Бэнц» яна перавозіла новы, але кантрабандны абутак на суму больш за 20 мільёнаў рублёў.

Жанчыне давядзецца выплаціць значныя штрафы. А пакупнікам — шукаць законныя «навінкі».

***По матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***

## Віншуем!

*На пачатку снежня вядомы беларускі пісьменнік Казімір КАМЕЙША адсвяткаваў сваё 70-годдзе. Але, нягледзячы на пражытыя гады, ён па-ранейшаму застаецца вясёлым, энергічным і бадзёрым, поўным творчых задум і планаў. Прынамсі, у вершы «Самаіранічнае» Казімір Вікенцьевіч дасціпна і з гумарам расказаў пра сваё жыццё: нездарма ж працаваў у «Вожыку»!*

*Рэдакцыя часопіса і рэдкалегія шчыра віншуюць свайго даўняга аўтара, таленавітага пісьменніка з юбілеем і зычаць яму моцнага здароўя, творчага плёну і жыццёвай моцы!*



**Казімір КАМЕЙША**

# ПАРТРЭЦІКІ

### САМАІРАНІЧНАЕ



Тутэйшы, сяброўскі,
Без мухаў мяшчанскіх,
Ён свой, навікоўскі,
Шумліва-пушчанскі.

Цярпліва маўчыць ён,
Калі яго хваліш.
Яго нават моцнаю кропляй
Не зваліш.



А лішняе возьме —
Дык не, не бушуе.
Не ласа глядзіць
На кабету чужую.

Бо, кажа, калі
На чужых заглядацца,
Дык можна няўзнак
Без уласнай застацца.

Бывае, сумуе,
А больш весяліцца.
І нешта рыфмуе,
Як ноччу не спіцца.

Хоць з той пісаніны
І мала карысці,
Ды ўсё ж ён — пісака,
Не пэцкаль якісьці.

Яшчэ, да ўсяго, ён —
Вандроўнік вядомы,
І блудзіць таму,
Не стыкаецца дома.

Стаптаў за жыццё
Не адны чаравікі.
З Малых Навікоў ён
І гэтым — вялікі!



### РАСКЛАДУШКА

Свой расклад у раскладушкі.
А калі раптоўны госць —
Ёсць і коўдра, і падушка,
Нешта й пад падушкай ёсць.

### ЛУПА



Блыху ўзвялічыць да слана,
Дзе зліплася — пралупіць.
А што лупатая яна —
Дык так і трэба лупе.

### ТАЎКАЧ



Напэўна, доля ўжо такая.
А як ты ад яе ўцячэш?
У ступе звыклае вякамі
Адно і тое ж ён таўчэ.

### МЫШ



Няма, здаецца, гэткіх ніш,
Якіх бы не займала мыш.
І стол падчысціць, і каморку,
А стрэне кот, дык — шусь у норку!..



*З 60-годдзем віншуе «Вожык» Уладзіміра ДУКТАВА, беларускага пісьменніка. Свой творчы шлях ён пачаў з усмешкаю: дэбютаваў школьнікам у газеце «Піянер Беларусі» з гумарыстычным апавяданнем «Вандраванне па муках». Пазней публікаваўся ў мясцовым і рэспубліканскім перыядычным друку. Выдаў кнігу мініяцюр і афарызмаў «Смешкі-пацешкі» (1998). Яго кніга прозы «Трэцяя асоба» (1997) перасыпана крупінкамі трапнага гумару, а ў зборніку «Кніжнік» (2005) побач з «сур'ёзнай» прозай суседнічае і гумарыстычная.*

*Уладзімір Уладзіміравіч шмат адшчыраваў на журналісцкай ніве: працаваў карэспандэнтам клімавіцкай раёнкі, затым рэдагаваў магілёўскую. Цяпер узначальвае Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*«Вожык» жадае юбіляру жыццёвага і творчага даўгалецця, дабрабыту і шмат шчырых усмешак!*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Якіх толькі не здараецца на свеце навагодніх цудаў!

Раніцай 1 студзеня настойліва звініць хатні тэлефон. Падымаю трубку.

— Ванда, гэта ты?

— Не, — адказваю, — я не Ванда.

— Кінь прыдурвацца! Я ж добра чую, што гэта ты. Прыхавай там маю шапку, а то ў цябе ўчора забыўся...

Кладу трубку. Праз некалькі хвілін зноў гучыць званок.

— Ванда, каравул! Толькі цяпер убачыў, што я надзеў пінжак твайго Пецькі! Што рабіць?!

На жаль, няўдачліваму каханку нейкай Ванды я нічым не магла дапамагчы...

**Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі раён, г. п. Падсвілле.*




*Каляды — гэта калі бацька спрабуе пераканаць сваіх дзяцей у тым, што ён Санта Клаўс, а сваю жонку — што ён не Санта Клаўс.*

Невядомы аўтар



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Грошы — не галоўнае, калі іх шмат.

Калі сэрца ўцякло ў пяткі, стой на месцы.

Калі ты прывык гаварыць адкрыта, многія дзверы для цябе зачынены.



Прыгажуню цяжэй пераканаць у тым, што яна непрыгожая, чым прымусіць непрыгожую лічыць сябе прыгажуняй.

Сябры мяняюцца, ворагі — застаюцца.

Цікава, а хто можа апазнаць НЛА?

Лепш бясконцае жыццё, чым жыццёвая бясконцасць?

Маральнасць узрастае з гадамі.

Калі ты чагосьці не ведаеш, гэта таксама веды.



Калі ты павінен пераконваць некага ў сваёй слушнасці, значыць, ты не маеш рацыі.

Усё адносна. Нават гэты тэзіс.

Эксперт — гэта той, хто ведае больш за цябе і не займаецца гэтай справай на практыцы.

Новае — добра забытае старое. Старое — добра забытае новае.

Чым больш вы рыхтуецеся да экзамена, тым больш узнікае пытанняў, на якія вы не ведаеце адказаў.

Калі і сонца, і дождж радуюць вас аднолькава, значыць, вы не збіраецеся выходзіць з хаты.

**Дунька ШЫП,**
*г. Мінск.*





Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Сіла звычкі

## Міні-сцэнка



Гісторыя, яна, дарэчы, як свет старая: муж вярнуўся з камандзіроўкі. Распрануўся. Абдымкі, радасць ад сустрэчы. На кухню жонка йдзе, гатуе і мужа стравамі частуе...

Ляжаць у ложку муж і жонка, вядуць няспешную гамонку:

– Ну, як жыла ты без мяне? Ці сумавала?

– Каб жа ж не! Як з вечара святло тушу – дык ночку па табе тужу! А ты па мне ці сумаваў?

– Я кожным ранкам уставаў і думкамі з табою быў! Ноч кожную цябе я сніў!

– А не шукаў жанчын другіх?

– Ды нават не глядзеў на іх! Магу сказаць аб гэтым смела! А ты нікога не займела? – муж запытаўся і ўздыхае.

– Я ж аднаго цябе кахаю! – пяшчотна жонка прашаптала, і мужу так прыемна стала. – Каб ведаў ты, як кожны вечар я марыла аб гэтай стрэчы, як плакала я ў адзіноце...

Вось на такой пяшчотнай ноце мне б і закончыць гэты сказ... Прабачце, гэта ў іншы раз! Бо раптам дзінькае званок у дзверы... Дзіўна, хто ж там гэта? Крычыць у роспачы кабета:

– Дык то ж чорт мужа прывалок! Бяжы хутчэй, а то прыб'е!

Муж скокнуў у акно дый ходу! Бяжыць, бядак, праз агароды, сусветныя рэкорды б'е! Бяжыць і раптам па ілбе далонню плясь:

– Цьфу ты, халера! Я ж дома, у сваёй кватэры! Што ж я ўцякаю ад сябе?!

*г. Чэрвень.*



## Каб і хацеў – не прыдумаеш

«Даводжу да вашага ведама, што Пракоп ЛЫНДА, саліст жаночага ансамбля «Мілашка», якім я часова кірую, не маючы музычнай адукацыі, наўмысна замінае мне праводзіць з ім рэпетыцыі, у выніку чаго ўзнікае незадаволенасць з абодвух бакоў і мае месца мінорны настрой у ансамблі.

Прашу тэрмінова адрэагаваць на абуральныя паводзіны ў калектыве і аказаць мне ў сувязі з гэтым маральную падтрымку і матэрыяльную дапамогу.

Хормайстар ЧЫЖЫК».

*(З заявы дырэктару Палаца культуры.)*

«Васіль КАЛАБОК шукае ў шосты раз сваю другую палавінку, бо, маючы багаты жыццёвы вопыт, зрабіў выснову, што ніводная з пяці яго былых палавін не была здольная злучыцца з ім у адно цэлае з прычыны адсутнасці магнітнага прыцягнення. Ён цвёрда ўпэўнены, што шостая спроба павінна прынесці ўдачу, бо, як сцвярджаюць мясцовыя астролагі, шосты па ліку шлюб – гэта двайная тройца. Удача Васілю КАЛАБКУ штодня мроіцца».

*(З газеты.)*

**Даслала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

Вернісаж



# Малюе Алег ПАПОЎ




















*Мабыць, амаль кожны чалавек час ад часу лунае ў салодкіх марах пра багатую і светлую будучыню і малюе ў сваіх фантазіях горы грошай, неверагодны фарт ці звычайную ўдачу. Але адны так і пакідаюць усё гэта ў мроях, іншыя – перыядычна правяраюць сваё шанцаванне ў розных падазроных справах і аферах. Ды толькі шчасціць апошнім вельмі-вельмі рэдка, і іх салодкія мары часта ператвараюцца ў горкую рэальнасць.*

*А ўсё з-за таго, што гэтыя летуценнікі бываюць празмерна даверлівымі. І простай наіўнасцю людзей часта карыстаюцца розныя злодзеі. Абяцаюць залатыя горы, ды пакідаюць каля пустога, разбітага карыта...*

*І схему злачынства кожны раз прыдумваюць новую.*

## Схема для даверлівых пенсіянераў

Зусім нядаўна ў Мінску дзейнічала злачынная групоўка, якая падманам выцягвала ў пажылых людзей грошы. Злодзеі знаходзілі даверлівых пенсіянераў, прадстаўляліся студэнтамі-медыкамі з Ірана ці Таджыкістана і прасілі ў старых дапамогі.

– Калі ласка, дазвольце пакарыстацца вашымі банкаўскімі рахункамі! Нам, замежным грамадзянам, чамусьці нельга абслугоўвацца ў беларускіх банках. Бацькі ж павінны пералічыць грошы на аплату вучобы. Дапамажыце! А за такую ласку мы вам заплацім. Пяцьсот долараў. Дамовіліся?

Старыя людзі, пачуўшы пра «летуценныя» грошы, верылі на слова «студэнтам» і здымалі ўсё са свайго рахунку.

– Калі рахунак пусты, вам не варта будзе непакоіцца, – раілі злодзеі. – Мы ж людзі сумленныя...

Пасля грошы пад рознымі прычынамі выманьваліся ў пенсіянераў, а махляры адразу знікалі, пакідаючы «летуценнікаў» ні з чым.

У Мінску адбылося пяць падобных выпадкаў, даверлівыя людзі аддалі аферыстам каля шасцісот мільёнаў рублёў. Зараз злачынцаў затрымалі, частку ўкрадзеных грошай канфіскавалі. Вядзецца следства.

## Схема для даверлівых жанчын

Пра што мараць жанчыны? Гэта новае футра, залатыя завушнічкі, смартфон у стразах, шыкоўная машына... Спіс можна працягваць бясконца. Але, мабыць, амаль кожная марыць пра ідэальнага мужчыну, які зможа абараніць, падтрымаць і – падарыць новае футра, залатыя завушнічкі... За такім можна пайсці і ў агонь, і ў ваду, і нават замуж. Вось толькі знайсці такога мужчыну вельмі цяжка.

А калі такі «ідэал» нейкім неверагодным чынам з'яўляецца ў жыцці звычайнай жанчыны, якая ўжо страціла надзею на асабістае шчасце? Тады прадстаўніца чароўнай паловы чалавецтва цалкам пазбаўляецца пільнасці і на ўсю моц аддаецца марам пра светлую будучыню. Гэтым і скарыстаўся адзін хлопец, якога з лёгкасцю можна назваць сапраўдным альфонсам.

Мінчанін з дапамогай інтэрнэту знаёміўся з жанчынамі, якія ўжо чагосьці дасягнулі ў жыцці, нядрэнна зараблялі, але былі адзінокімі. Хлопец прадстаўляўся паспяховым праграмістам, які хоча сур'ёзных адносін. Пачынаў прыгожа заляцацца, праз некаторы час знаёміў нават са сваёй маці, будаваў планы на будучыню.

– Дарагая, я кахаю цябе! У нас павінна быць дзіця, я вельмі-вельмі гэтага хачу! А ты?..

Але як толькі жанчына зацяжарвала, каханы бясследна знікаў...

Між тым, падчас гэтых заляцанняў хлопец раз-пораз пазычаў у жанчын грошы: то, маўляў, зарплату затрымалі, то трэба лячыцца ад анкалогіі, то візу афармляць. І заўсёды мог падабраць такія словы, што яго сяброўкі без якіх-небудзь падазрэнняў аддавалі свае капіталы.

Падобным чынам «праграміст» падмануў каля пяці жанчын. Калі пацярпелыя звярнуліся ў міліцыю, то высветлілася, што хлопец ужо быў асуджаны за махлярства. Але складу злачынства ў яго цяперашніх «аферах» няма, бо жанчыны самі давалі яму грошы, без якога-небудзь прымусу...

*Як кажуць, мараль: марыць можна і нават неабходна, але нельга цалкам аддавацца летуценням. А таксама – празмерна верыць незнаёмым людзям. І заўсёды варта памятаць простую народную мудрасць: «Пазбягайце салодкага, якое можа стаць горкім».*

**Не ела салодкага
Наталля КУЛЬГАВАЯ.**









Малюнкі Руслана БОГУША.




*Навагодні настрой – гэта калі рады бачыць нават тых, хто памыліўся дзвярамі.*

Міхаіл Мамчыч (журналіст)

**Ірына ЛЯВОНАВА**




Агаф'я Пятроўна, у простанароддзі баба Глаша, зразумела за сваё доўгае жыццё, што людзі падзяляюцца на добрых і дрэнных. Ну, а тое, што ў іх вёсцы Пярлоўцы сусед па агародзе Мікалай Фігура акажацца такім падлючым, стала для яе вельмі непрыемным сюрпрызам.

Здарылася гэта гісторыя ўвосень.

Прыйшоў неяк Мікалай да Агаф'і Пятроўны і ў дзвярах аб'явіў:

– Баб Глаша, чулі ці не, якую навіну наш участковы Аляксандравіч надоечы на сходзе абвясціў?

– Ды не, мілок, чаго мне на вашы сходы хадзіць, – адмахнулася бабка Агаф'я.

– Загад выйшаў: хто зарэгіструе ў міліцыі свой самагонны апарат, можа гнаць і прадаваць самагон адкрыта. А плаціць за рэгістрацыю трэба чыстыя капейкі.

– Ну, нарэшце, павярнулася ўлада да народа! – Агаф'я Пятроўна, як і многія аднавяскоўцы, гнала самагон. Але адносілася да напою з любоўю. Настойвала яго на гаючых травах, таму напой меў фірменную назву «Агаф'еўка». – А то колькі я нягод і клопатаў маю несправядліва. Адзін Аляксандравіч са сваім падазроным поглядам і чуйным носам каго заўгодна да магілы можа давесці!

На наступны дзень першым рэйсавым аўтобусам бабка накіравалася ў горад.

Дзяжурны ледзьве з крэсла не зваліўся, калі пачуў:

– Мілок, мне тут некалі з табой гутарыць. Вядзі мяне да начальства, але калі сам упаўнаважаны, дык хутчэй зарэгіструй мяне з маім самагонным апаратам, а то мне трэба назад дахаты. Спраў у мяне шмат.

Вечарам бабка Глаша вярнулася дахаты не рэйсавым аўтобусам, а на міліцэйскай машыне. Самагонны апарат, вядома, канфіскавалі, але штраф не ўзялі – аформілі як добраахвотную здачу.

Пасля таго Пятроўна цэлы год не размаўляла не толькі з Мікалаем, але і з аднавяскоўцамі. Не магла дараваць ім, што тыя назіралі, як яе скарб з хаты забіралі.

Жарт не ўдаўся...



*г. Масква.*

**Віктар ЛОЎГАЧ**




Гісторыю гэту і сёння памятаюць у Лукашах, хаця мінула больш за пяцьдзясят з гакам гадоў. Здарылася яна адразу пасля вайны. Гэтулькі тады развялося ваўкоў, што ні з хаты выйсці, ні жывёлу з двара выгнаць.

Вось і вырашылі якраз у піліпаўку, калі гэтыя драпежнікі збіраюцца ў зграі, зрабіць на іх аблаву. А на ўсю вёску толькі ў дзеда Піліпа і захавалася дубальтоўка. Таму яго, адзінага стралка, паставілі на хадавым воўчым лазе, а астатнія вяскоўцы, прыхапіўшы вёдры, патэльні і сякеры, павінны былі ўчыніць грукат на ўвесь лес.

І лес сапраўды грукатаў. Праўда, стрэлаў не чулася. Раптам нехта з першых загоншчыкаў, хто дайшоў да Піліпа, кінуўся насустрач астатнім з крыкам:

– Людцы, заела, заела!

І па лесе панеслася:

– Воўчая зграя Піліпа заела, заела!

Суседзі дзеда кінуліся ў вёску да старой Аўдоцці:

– Ой, горачка, горачка! Ваўкі твайго Піліпа заелі!

Запраглі калгаснага каня ў сані і паімчаліся ў лес на воўчы лаз, каб прывезці хоць тое, што пакінулі ваўкі ад дзеда Піліпа.

Галосіць, прычытае Аўдоцця. Павесіў нос старшыня калгаса: «Такога цесляра, такога печніка не стала».

А вось і лаз, а вось і... дзед Піліп. Цэлы, жывы. Толькі дубальтоўку аберуч трымае ды трасе яе:

– Я гэта кляц, кляц, а байкі заела. Толькі і бачыў васьмярых шэрых. Эх, падвяло мяне ружжо!..

І калі сёння ў Лукашах хтосьці пачынае маніць, яму абавязкова нагадваюць:

– Што, заела? Як зграя ваўкоў Піліпа на аблаве?..



*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




*Мы свята абяцаем сабе, што з Новага года перастанем рабіць усё тое, што прыносіла нам найбольшае задавальненне ў старым.*

Невядомы аўтар




БУДАН – будаўнік.
ГАЗОЎКА – жанчына за рулём.
ГАМАВАЦЬ – займацца музыкай.
ЖМОТ – аматар абдымкаў.
КАЧАЛКА – снегавік.
КІМАРЫЦЬ – марыць аб кімсьці.
МАЛЬВА – мастачка.
САЖАНЬ – зняволены.



САЛЯРЫЙ – куфар для захоўвання сала.
СУДАК – суддзя.
СУШНЯК – худы чалавек.
СЫТНІК – тлусты чалавек.
ЧАРКА – чараўніца, знахарка.
ЧЫСЦЁХА – работніца хімчысткі.



**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*

# Анекдоты

Калі вы не любіце Новы год, то з верагоднасцю ў 80 працэнтаў вы — мандарын.




* * *




Самая першая краіна, куды прыходзіць Дзед Мароз — гэта Кітай... Каб загрузіць мяшок падарункамі.



«Дарагі Дзядуля Мароз... Я была добрай дзяўчынкай увесь год... Хм... Ну, амаль увесь год... Хм... Ну, часам... Хм... Ну, пару разоў сапраўды была... Ой, добра, КУПЛЮ ЎСЁ САМА».




* * *

Размова двюх бландзінак.
— Ведаеш, сёлета Новы год прыпадае на пятніцу!
— Ой, толькі б не на трынаццатага!

* * *

Прыходзіць Дзед Мароз да псіхатэрапеўта:
— Доктар, дапамажыце! Я ў сябе не веру...



—Тата, а ты ведаеш, які цягнік спазняецца больш за ўсе астатнія?
— Які?
— Той, які ты абяцаў мне падарыць яшчэ на мінулы Новы год!



* * *

Напярэдадні Новага года да бабулі прывезлі ўнука. Малы з дарогі замарыўся, і яго паклалі спаць.
Праз гадзіну ён прачнуўся і пачаў капрызіць.
— Калі не будзеш плакаць, Дзед Мароз падарыць табе вялікую машыну.
— Клас! — узрадаваўся малы. — Цяпер іх у мяне будзе дзве.
— Чаму дзве? — здзівілася бабуля.
— А другую я знайшоў у цябе пад ложкам...



Муж пытаецца ў жонкі:
— Мілая, што табе падарыць на Новы год?
— Ой, я нават не ведаю...
— Ну добра, даю табе яшчэ год на роздум.



* * *



— Дзед Мароз, прашу цябе, падары мне канструктар! — крычыць Васілёк.
— Цішэй, — супакойвае яго матуля. — Дзядуля пачуе нават шэпт.
— Але ж тата зачыніўся ў сваім пакоі: можа і не пачуць!




**Вожык**
Часопіс сатыры і гумару




✂ - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**Вожык** часопіс сатыры і гумару **2014**

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Пн. |
| Аўт. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | Аўт. |
| Ср. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Ср. |
| Чц. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Чц. |
| Пт. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Пт. |
| Сб. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Сб. |
| Ндз. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Ндз. |

| | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | Пн. |
| Аўт. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | Аўт. |
| Ср. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | Ср. |
| Чц. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Чц. |
| Пт. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Пт. |
| Сб. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | Сб. |
| Ндз. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | Ндз. |




ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:
ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – **74844**,
ВЕДАМАСНЫ – **748442**,
ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ЛЬГОТНЫ – **01380**,
ВЕДАМАСНЫ ЛЬГОТНЫ – **01381**.

✂ - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**Вожык** часопіс сатыры і гумару **2014**

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Пн. |
| Аўт. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | Аўт. |
| Ср. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Ср. |
| Чц. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Чц. |
| Пт. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Пт. |
| Сб. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Сб. |
| Ндз. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Ндз. |

| | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | Пн. |
| Аўт. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | Аўт. |
| Ср. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | Ср. |
| Чц. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Чц. |
| Пт. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Пт. |
| Сб. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | Сб. |
| Ндз. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | Ндз. |




✂ - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**Вожык**
Часопіс сатыры і гумару









**Вожык** часопіс сатыры і гумару **2014**

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Пн. |
| Аўт. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | Аўт. |
| Ср. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Ср. |
| Чц. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Чц. |
| Пт. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Пт. |
| Сб. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Сб. |
| Ндз. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Ндз. |



**Вожык** часопіс сатыры і гумару **2014**

| | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | Пн. |
| Аўт. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | Аўт. |
| Ср. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | Ср. |
| Чц. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Чц. |
| Пт. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Пт. |
| Сб. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | Сб. |
| Ндз. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | Ндз. |

Каб ў вас атрымаўся настольны каляндар, трэба сагнуць ліст па пункцірных рысах і замацаваць скрэпкай, як паказана на схеме.








– Мы з жонкай сустрэліся на навагоднім балі-маскарадзе.

– О, як гэта рамантычна!

– Куды ўжо больш рамантычна?! Я ж думаў, што яна сядзіць дома з дзецьмі...



☺ ☺ ☺

– Напісала ліст Дзеду Марозу... Аддала мужу... Чакаю...

☺ ☺ ☺

Навагодні карпаратыў. Адна жанчына звяртаецца да другой:

– Мне здаецца, што мы з вамі ўжо сустракалі Новы год у адной кампаніі дванаццаць гадоў таму.

– Сапраўды? Нешта не прыпомню...

– Я таксама дрэнна запамінаю твары. Але сукенкі – добра!

☺ ☺ ☺

У мінулы Новы год адмовіўся ад аліўе. Сёлета паспрабую не есці мандарынак – трэба ж вызначыць, ад чаго мне так дрэнна 1 студзеня!



☺ ☺ ☺

Мала хто ведае, але для ўпрыгожвання кватэры на Новы год дастаткова кінуць петарду ў вінегрэт!

☺ ☺ ☺

Муж прачынаецца пасля свята:
– Жонка, якое сёння чысло?
– Другога студзеня...
– А што – першага не было?!



☺ ☺ ☺

Ліст да Дзеда Мароза: «Дзядуля, я на дыеце, таму мне нельга салодкага. Вышлі мне, калі ласка, скрыню напаўсалодкага!»



☺ ☺ ☺

Трэці дзень ляжу пад ёлкай і ніяк не ўцямлю: няўжо такі падарунак нікому не патрэбен?

☺ ☺ ☺

Напярэдадні Новага года.

– Добры дзень, Міша!

– Добры, Мікалай Канстанцінавіч...

– Адгадай загадку: не п'е, не курыць – на Новы год дзяжурыць!

– Э-э-э... Гэта вы на што намякаеце?






*Шкада, што Новы год надыходзіць менавіта тады, калі цяжэй за ўсё дастаць елку.*

Аляксандр Ратнер
(савецкі гісторык, бібліёграф)




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



# Вось-вось – і Новы год!




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ («15 суток»).







## Лячэбнае замужжа



Ў целе маладой Агаты
Кілаграмаў — ой, багата!
Колькі ўжо разоў сядзела
На дыеце: не худзела.
За Мікіту замуж выйшла,
Што даўно ўжо вершы піша.
І пайшло жыццё другое:
Небагатае, скупое.
Грошай яўна малавата —
Зарабляе іх Агата.
Выдаў кнігу муж «Апенькі»,
Ганарар жа той — слабенькі.
Перыёдыка друкуе,
Плата ж... Хто б хацеў такую?




Кажа жонка да Мікіты:
— Працаваць ужо ідзі ты,
Каб штомесяц меў зарплату.
Той пярэчыць ёй: — Агата,
А тварыць калі? Загіне
Талент, як зімой вяргіня...
Мае жонка прыработак
І працуе па суботах...
Круціцца, ды не ў адчаі.
Вельмі лёгка прыкмячае,
Што вага ідзе да нормы,
Набываюць вабнасць формы.

Выйшла замуж за паэта —
Не спатрэбіцца дыета!

**Віктар РЭЧЫЦ,**
*г. Івацэвічы.*

**Павел САКОВІЧ**

## Эпіграмы як рэкламы

**Янусь МАЛЕЦ**



Сышліся хлопцы — хто адкуль,
А ён — з Пастаўшчыны, з Хрыстова.
Смяшлівы, добры, не куркуль —
Прыязны малец, наш, вясковы.

Хоць Янусь і пісаў пяром,
А не кідаў на стог салому,
Ёсць «Асцюкі за каўняром»,
Ну, і «Трава ў вушах», вядома.

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**



Перад дамамі, бывае,
Зрэдку ён узрост скрывае.
Быццам тая маладзіца,
Хоча ён падмаладзіцца.
Ў гэта верыцца з нацяжкай:
Можа, робіць ён падцяжкі?
Толькі ўзрост скрываць дарэмна:
Трыццаць ёсць яму, напэўна.
Праўда, рост скрываць не трэба:
Бачна й так — дастаў да неба!
А вось каб дастаць да мэтра,
Падрасці б яшчэ... з паўметра!

**Вольга САКАЛОВА**



Хоць і строга гучыць: Сакалова,
Не драпежнік яна, верце слову!
Сэрца Вольгі — якраз ад галубкі,
Дый характар лагодны, ціхуткі.
Ну а крылы, душу даў не зломак:
Яе ўласны ахоўнік — анёлак.
Можа, скажаце, гэта замнога —
Столькі рысаў узяць ад святога?
Не, тут лішняга, мабыць, нічога,
Бо і талент у Вольгі — ад Бога!

*Шаржы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*




## Васіль ЖУКОВІЧ

### ВУСНЫ — НА ПАМЯЦЬ…

*Праклінаю той дзень, як сустрэў,*
*Толькі сэрца зноў прагне спаткання…*
*…….*
*Ты мне жонкаю стаць не змагла,*
*А каханкаю быць не схацела.*
*…….*
*Ты свае мне пакінула вусны.*
*«Дзякуй богу», — шапчу я ў бяссонні.*

*Мікола ШАБОВІЧ*

Праклінаў я той дзень, як сустрэў!..
Ледзь ад гневу тады не згарэў,
Сэрца доўга балюча трымцела,
І душу ахінала імгла:
Ты мне жонкаю стаць не змагла,
А каханкаю быць не схацела.

Ноч не спаў, але вось памудрэў —
Не кляну ўжо той дзень, як сустрэў…
Бо ў начы таямніча-спакуснай
Ты свае мне пакінула вусны.
«Дзякуй богу», — нарэшце шапчу
І табе штось пакінуць хачу…

## Віктар КУНЦЭВІЧ

### ДУША-ХРАПКА

*Душа мая колецца, быццам асцё,*
*Захочацца плакаць раптам…*
*З яе слой за слоем здымала жыццё,*
*Адна засталася храпка.*
*Якую і вусень не сточыць ніяк,*
*Ці іншыя гады-злюкі…*
*Душу я сваю аддаю за так —*
*У добрыя рукі.*

*Аляксандр БЫКАЎ*

Каюся, быў я спакусны
Ў час малады, залаты —
Душу за качан капусты
Прымаў я чамусьці тады.
Жыццё за слоем слой
Садрала з яго да храпкі,
І жонка да маці сваёй
Сышла, сабраўшы апратку.
Падобны цяпер на бадзягу-ката,
Трываю нясцерпныя мукі.
Душу і сябе аддаю за так
У добрыя рукі.

## Мікола ТОНКАВІЧ

### ПРАШУ ДАРАВАННЯ

*Жанчына маіх гадоў*
*Ужо пра любоў забыла.*
*…….*
*І хоць яна мне чужая,*
*У тым і мая віна.*
*…….*
*Букецік лірычных слоў*
*Я ёй падару прыгожы.*

*Алесь ЖЫГУНОЎ*

Жанчыны маіх гадоў,
Забылі вы ўжо пра каханне?
Няміла і ноч вам, і ранне,
Жанчынам маіх гадоў.

Сваю адчуваю віну,
Што вас не сустрэў аднойчы.
А сам я таму штоночы
Галублю толькі адну.

З вас кожнай аддаў бы душу…
Аднак жа каноны маралі
Мне стаць мнагажэнцам не далі,
За што прабачэння прашу.

Ствару лепш санеты для вас:
Маё паэтычнае дзіва
Разбудзіць пачуцці імкліва —
І вы мне даруеце ўраз!

## Анекдоты

Пакупнік заходзіць у кніжную краму і звяртаецца да прадаўца:

— Мне б якую-небудзь захапляльную кнігу, ад якой немагчыма было б адарвацца.

— Ёсць выдатны дэтэктыў, які чытаецца на адным дыханні. Там адбываецца цэлая серыя забойстваў, і ніхто не можа здагадацца, хто ж злачынца.

— Цудоўна, гэта акурат тое, што мне патрэбна. А як называецца кніга?

— Зараз паглядзім… «Вартаўнік-забойца»!



У кніжнай краме да прылаўка падыходзіць дзяўчына гадоў шаснаццаці і пытаецца:

— У вас Пушкін ёсць?

Прадавец адказвае:

— Ёсць. А што менавіта вам патрэбна?

— Ну, не ведаю… Дайце штонебудзь свежанькае!



— Які дрэнны пераклад! Не ведаеце, хто перакладаў гэты раман?

— Ніхто, гэта арыгінал…



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## Навіны & Мус: матай на вус...

### Укралі лепшага сябра

***Маладзечанскі раён.*** Чалавеку варта заўсёды быць пільным і ўважлівым, бо недзе побач знаходзяцца злодзеі і махляры. Яны могуць сцягнуць кашалёк, ці залезці ў кватэру, ці «запудрыць» мазгі так, што сам аддасі ім грошы.

Але адзін мінчанін нават уявіць не мог, што злодзеі здольны спакусіцца на... лепшага сябра. Ноччу нейкі невядомы ўкраў з дачнага ўчастка ў вёсцы Дзякшняны сабаку пароды лайка. Вядома, цяжка ацэньваць гэтую страту, але гаспадару нанесены ўрон у дзевяць мільёнаў рублёў.

Спадзяёмся, што сабаку хутка знойдуць, бо сябры павінны заўсёды быць разам.

### Ты — не ты, калі галодны

***Салігорск.*** Памятаеце рэкламу аднаго шакаладнага батончыка, у якой людзі поўнасцю пераўтвараліся, калі былі галодныя? Яны рабіліся ці празмерна агрэсіўнымі, ці наадварот — апатычнымі. Але як толькі з'ядалі батончык — усё імгненна мянялася. А калі такой шакаладкі няма? Тут жа на людзей можна пачаць кідацца...

Мабыць, менавіта з-за адчування голаду мясцовы хлопец напаў на жанчыну, якая ішла па вуліцы Наруцкага. Ён пачаў яе душыць, потым забраў пакет з прадуктамі і кінуўся наўцёкі, але быў затрыманы міліцыянерамі.

Па гэтым факце завялі крымінальную справу. А мясцоваму жыхару давядзецца навучыцца кантраляваць сябе ў тыя моманты, калі страўнік пусты.

### Яшчэ прыклад незразумелага

***Віцебскі раён.*** У «Вожыку» ўжо неаднаразова расказвалася пра дзіўныя, нават дурныя крадзяжы, якія цяжка растлумачыць. То нейкі п'яны сцягне ў суседа газавы балон, то хлопец прысвоіць чужую запальнічку, то злодзей прыхопіць дзіцячую машынку...

А зусім нядаўна ў віцябчаніна з дачнага дома, які знаходзіцца ў вёсцы Вялікія Трубачы, два хлопцы ўкралі гарэлку і... карціну. Можна толькі выказваць здагадкі наконт таго, навошта ім спатрэбіўся менавіта такі «камплект». Можа, так яны шукалі натхненне, а можа, гэта быў партрэт і хлопцы ўзялі яго як «трэцяга» ў сваю кампанію?.. Тым не менш крымінальная справа ўзбуджана, і не выключана, што за гэты неразумны ўчынак хлопцы могуць трапіць за краты.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***




**Кашмар падатковага інспектара:** ён атрымаў пасведчанне індывідуальнага прадпрымальніка.

**Кашмар прадаўшчыцы вінна-гарэлачнага аддзела:** усе пакупнікі вядуць цвярозы лад жыцця.

**Кашмар нявернай жонкі:** цвярозы муж.

**Кашмар сабакі:** у яго доўгія вусы, гнуткі хвост і ён лагодна мурлыкае.

**Кашмар вадзіцеля «маршруткі»:** у гадзіну пік усім жадаючым хапае месцаў у грамадскім транспарце.

**Кашмар таксіста:** уводзяцца праязныя білеты на наступныя віды транспарту — аўтобус, тралейбус, трамвай, метро і таксі.

**Сны сніў Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




# Хвядос і «данос»



Зноў шуміць уся вёска:
Хтось хлусню распусціў,
Што стары мой Хвядоска
Да суседкі хадзіў.

А яна частавала
І паіла яго.
Кажуць, добра страчала...
Я ў сумніве — каго?

Мабыць, аўтар «даносу»
Праўды горкай не знаў:
Кот, таксама Хвядоска,
Тыдзень недзе блукаў.

Ці сваіх не хапае,
Ці ў суседак смачней,
Толькі мышак ганяе
Там часцей і спрытней.

Ах, няхай тыя жарты
З туманамі сплывуць.
Пераблытаны карты,
А героі — злуюць!

Вунь на печы Хвядосе
На ката рот дзярэ,
Што той ходзіць да Фросі,
А яго — не бярэ!

**Вольга САКАЛОВА,**
*г. Мінск.*

## РАССУДЗІЎ



— Калі б не я, — прамовіў Нос, —
Вам, Акуляры, не ўтрымацца.
Я спецыяльна доўгім рос,
Каб вы маглі пакрасавацца.

— Не, мы трымаем Акуляры,
А ты маўчы, гузак на твары! —
Сказалі Вушы чалавека,
Не пацярпеўшы «насаздзеку».

Сам Гаспадар змаўчаць не змог,
Пачуўшы гэты дыялог:
— Сябры, вы служыце спрадвеку
Не Акулярам — Чалавеку.

**Яўген ЖАМОЙДЗІН,**
*Мінскі раён,*
*г. п. Мачулішчы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэма Валянціны ГАРБАЧУК.




*Добра, што ёсць стары Новы год — яшчэ адзін шанц пачаць жыць па-новаму.*

Невядомы аўтар




**Янусь МАЛЕЦ**

## НЯЎПЭЎНЕНЫ ГАДЗІННІК



Час паказвае гадзіннік
З хваляваннем несупынным
І пытаецца, дзівак:
– Так?
– Ці так?
– Ці так?
– Ці так?

## ЗАХВАРЭЎ



Певень, мусіць, захварэў.
Можа, што не тое з'еў?
Ходзіць млява па двары,
Хоць яшчэ і не стары.
А то ляжа і ляжыць
І маўчыць,
маўчыць,
маўчыць...
Не пяецца бедаку
Як заўжды:
– Ку-ка-рэ-ку!



## ГОРА-ХОР



На кагосьці – «Гаў-гаў-гаў!» –
Сабака гнеўна забрахаў.

Кот на лавачцы прыўстаў,
Сонна мяўкнуў – «Мяў-мяў-мяў!».

Лыска мукнула яму
З лужка пагрозліваε – «Му-у-у!».

А за вёскаю ў барку
Зязюлька выдала: «Ку-ку!».

Кажа ўнуку дзед Ягор:
– Які ж бязладны гора-хор!



Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## КРЫЛАТКІ

Са сном змагаўся я, як мог,
Але заснуў без задніх ног.



Калі не надзейны таварыш,
З ім кашы ніколі не зварыш.



Наматай сабе на вус:
Рупны, шчыры – беларус.



Заспявае – нельга слухаць,
Наступіў мядзведзь на вуха.



Калі ў хаце спор ды лад,
То і кожны вельмі рад.



Маюць рацыю сябры:
Снег – да часу, да пары.



А Лявон наш прамаўчаў,
Як у рот вады набраў.





Раскрычаўся Мікалай,
Хоць ты вушы затыкай.



# Крыжаванка «НОВЫ ГОД»

***Калі ты правільна адгадаеш прапушчаныя словы і запішаш іх па вертыкалі, то ў выдзеленых гарызантальных клетках прачытаеш назву фрукта, які абавязкова прысутнічае на навагоднім стале.***

**1.** Пара года, калі людзі сустракаюць Новы год.
**2.** Дрэва, якое ўпрыгожваюць на навагоднія святы.
**3.** Белыя «зорачкі», што сыплюцца зімой з неба.
**4.** Слова, якое кажуць ветлівыя людзі пасля таго, як атрымаюць падарунак.
**5.** Рознакаляровыя папяровыя кружочкі, якімі абсыпаюць адзін аднаго на маскарадах і карнавалах.
**6.** Яна заўсёды прыходзіць разам з Дзедам Марозам.
**7.** Звярок з іголкамі, што спіць усю зіму.
**8.** Яго шукаюць пад навагодняй ёлкай.









Забава ад мастака
Андрэя СКРЫННІКА.



**Адказы:**
**1.** Зіма. **2.** Ёлка. **3.** Снег. **4.** Дзякуй. **5.** Канфеці. **6.** Снягурка. **7.** Вожык. **8.** Падарунак.
Выдзеленае слова — **мандарын.**




## Хітры Пятрусь

— Пятрусь, ты прачытаў кніжку, што падарыў табе тата?
— Не-а...
— Чаму?
— Рукі забыўся памыць...



## Ангіна

— Мама, у чым пчолы мёд носяць? — цікавіцца Славік.
— У роціку, — адказвае мама.
— А што, у іх кожны раз ангіна?..



## Множанне і дзяленне

— Сяргейка, што для цябе самае цяжкае ў матэматыцы? — пытаецца бацька ў сына.
— Множанне і дзяленне.
— А што самае лёгкае?
— Калі адсутнічаю... на ўроку матэматыкі.




**Даслаў Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*








**Кот Саймана (Simon's Cat)** – серыя кароткаметражных мультфільмаў, створаная англійскім аніматарам Сайманам Тофілдам. У кожным эпізодзе дзейнічае галоўны персанаж – вечна галодны вірлавокі дамашні кот, які, выкарыстоўваючы грубую тактыку, патрабуе ад гаспадара ежы і ўвагі.

Фільмы вельмі нагадваюць паводзіны рэальных катоў, хаця і ў гратэскным выглядзе.

Сёння зняты 31 мультфільм пра прыгоды ката Саймана.










**Кацянё** – тыповы кот Саймана ў дзяцінстве. Прататып – малодшы кот С. Тофілда Тэдзі, які мае стасункі са старэйшым катом Х'ю.

**Вясковы кот** – аднавокі кот, з якім кот Саймана пазнаёміўся, калі ўцёк з дома. Ён жыве на ферме, і ў яго ёсць гаспадыня. Кот любіць пацвельваць ката Саймана, бо той, як дамашні кот, не здольны жыць на ферме.

## У мультфільмах дзейнічаюць:

**Кот Саймана** – галоўны герой. Афіцыйна ён не мае імя, але С. Тофілд сцвярджае, што прататып – яго ўласны кот Х'ю. У роліках замест ката Саймана ласкава мяўкае сам Тофілд.

**Сайман** – хударлявы шматпакутны гаспадар ката, які церпіць разнастайныя выхадкі свайго гадаванца.

**Іншыя каты:**

**Суседскі кот** – кот, з якім кот Саймана пастаянна дзеліць тэрыторыю двара.

1



2



3



4



5



6





А таксама:

**Сабака сястры Саймана, Трус, Садовы гном, Вожык, Птушкі, Муха, Жаба, Вавёрка, Мышы, Смоўж, Павук, Крот, Чмель** і іншыя персанажы.



